ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P. O. Box 178, Jamaica. N. Y. 11431 Tel.: (212) 380-2036

Год XXX № 289 Нью Ёрк — травень — 1981 — May — New York Vol. XXX № 289

## МІХАЛ КУКАБАКА: "ТУТ УМОВЫ НЯЛЮДЗКІЯ"

Нядаўна на Захад трапіла інфармацыя Маскоўскае грамадзкае групы спрыяньня выкананьню Гэльсынкаўскіх пагадненьняў пра зьняволенага беларускага іншадумца Міхала Кукабаку. Інфармацыя падпісаная Еленай Бонэр — жонкай сасланага з Масквы ў г. Горкі акадэміка Андрэя Сахарава. Дакумэнт датаваны 23 сьнежня 1980 году. Ніжэй зьмяшчаем ягоны поўны тэкст.

***

У савецкіх лягерох на адмысловым палажэньні знаходзяцца палітзьняволеныя з рабочых. Рэжым у дачыненьні да іх, як правіла, больш жорсткі, самаволя начальства асабліва вытанчаная. Міхал Кукабака — Беларус, рабочы, нарадзіўся ў 1936 годзе. Рана ў выніку вайны страціў бацькоў. Выхоўваўся ў дзіцячым доме. Канфрантацыя з рэжымам пачалася з таго, што ён ня толькі не ўхваліў, але перажыў як асабістую ганьбу ўварваньне савецкага войска ў Чэхаславаччыну ў 1968 годзе. Ад гэнага мамэнту ён пачаў крытычна ставіцца да падзеяў, сьветкам і ўдзельнікам якіх ён быў сам.

У 1970 годзе ён быў арыштаваны ў горадзе Аляксандраве Ўладзімірскай вобласьці, дзе быў рабочы аўтазаводу, за дэманстрацыйны няўдзел ў выбарах і камуністычным сыботніку. Абвінавачаны паводля артыкулу 190-1. Па заканчэньні сьледзтва яму запрапанавалі супрацоўнічаць з КДБ. Ён адмовіўся ды быў накіраваны ў Інстытут судовай псыхіятрыі імя Сербскага, дзе яго прызналі псыхічна хворым.

Больш як шэсьць гадоў яго трымалі ў псыхбольніцах, у тым ліку ў страшной Сычаўскай спэцпсыхбольніцы. Ужо будучы на свабодзе, 16 красавіка 1977 году ён падаў у Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету СССР заяву пра адмову ад савецкага грамадзянства. Пасьля падаваў заяву з просьбай даць яму магчымасьць выехаць з СССР. Адказу на ніводную заяву на дастаў.

19-га кастрычніка 1978 году Кукабака быў паўторна арыштаваны ў горадзе Бабруйску, дзе ён тады працаваў рабочым на хвабрыцы. 21-га чырвеня 1979 году Магілеўскі абласны суд засудзіў Міхала Кукабаку „за распаўсюджваньне вестак, якія ганьбуюць савецкі лад", а папраўдзе, за спробу асэнсаваць сваё жыцьцё ў шэрагу аўтабіяграфічных нарысаў: „Украдзеная Радзіма", „На сустрэчу з маленствам", „Адкрыты ліст акадэміку Пятроўскаму" ды іншых, у якіх былі роздумы пра савецкую рэчаіснасьць.

Ён быў засуджаны на тры гады лягероў агульнага рэжыму. У установу УЖ-15/10,„Е" ў горадзе Навапалацку ў Беларускай ССР Кукабака прыбыў 13-га жніўня 1979 году. Пасьля сталася ведама, што на ягонай справе ёсьць паметка, што ён „сьхільны да ўцёкаў", зробленая бяз усялякіх на гэта асноваў.

Гэткім парадкам, яму быў вызначаны не агульны, а фактычна спэцыяльны рэжым. Вось што пішуць пра яго ў двух лістох, якія не прайшлі цэнзуры. Яго бяруць на змор, яго прымушаюць вязаць сеткі, загадзя ведаючы, што паводля свайго веку й стану здароўя ён ніколі ня зможа выканаць норму выработкі. За невыкананьне гэтай нормы яго пераводзілі на паніжанае харчаваньне, што можа працягвацца неабмежаны час. Яго ўсялякімі спосабамі абмяжоўваюць у ліставаньні. Гэтак, апэратыўны аддзел забраў у яго ўсе адрасы, копіі жальбоў, заяваў, собскіх лістоў, апісаньне асабістых рэчаў; афіцыйныя адрасы й імёны працаўнікоў пракуратуры, куды ён пісаў розныя жальбы, былі вырваныя з запісной кніжкі.

Міхась дамагаўся пераводу ў іншую калёнію. Ён пісаў заявы ў Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету, нагадваючы аб ягонай адмове ад савецкага грамадзянства, з паўторнымі просьбамі аб ягоным выезьдзе з СССР. У вадказ адміністрацыя калёніі зрабіла больш жорсткім ягоны рэжым. Першы тэрмін нутралягернай турмы — ПКТ — ён атрымаў фармальна за тое, што ў часе сэансу кіно (для зьняволеных абавязкавага) адвярнуўся ад экрану ды заткнуў вушы ватай. Тады ён прабыў у ПКТ ад 6-га лістапада 1979 году да 6-га чырвеня 1980 году. Ён вельмі хварэў і частку часу праляжаў у бальніцы.

У вапошнім лісьце Міхал паведаміў, што ад 11-га лістапада 1980 году ён зноў у ПКТ — тэрмінам на 6 месяцаў. Прычына: „у часе вобыску пры мне знайшлі ліст, адрысаваны Ніне (жонцы Віктара Някіпелава). У ім я прасіў, калі магчыма, абскардзіць дзеяньні цэнзуры (начальнік апэратыўнай часьці Белавусаў) або падаць да публічнага ведама пра яе. У якасьці ўзору я прыкладаю тэкст ліста да Салаўёва, які быў забракаваны перад гэтым цэнзурай, а таксама тэкст заявы мясцоваму пракурору. Мне тут забаронена выказваць свае меркаваньні ў ліставаньні блізу што да кажнага пытаньня (палітыкі, літаратуры, эканомікі й г. д.). Пра парадкі ў клёніі й мовы быць ня можа, дый ня пішу пра іх. Што цікава, наглядчык адмаўляецца рабіць выкрэсьліваньні ў маіх лістох, а прымушае перапісваць да таго часу, пакуль ён ня будзе задаволены зьместам. Цяпер мне прыдумалі новыя абмежаньні: забаранілі карыстацца сваімі кнігамі, купленымі ў лягернай кніжнай лаўцы або атрыманымі поштай. Навет слоўнікі адабралі, хоць выпісваю „Москаў Ньюс", чыстыя сшыткі таксама адабралі. Практычна забралі ў мяне ўсё: адрасы ўсіх маіх сяброў (ужо пяты раз), старыя канвэрты, лісты, усякія запіскі й гэтак далей. Напісаў пратэст на імя пракурора Беларускай ССР (упэўнены, што бяз выніку, як і раней). Зноў патрабую пераводу ў іншую калёнію або ў крытую турму. Бо тут умовы нялюдзкія. Камэры сырыя, няма зусім вэнтыляцыі (няма навет люфцікаў або якой-небудзь шчыліны); на пагулянку ня выводзяць, але калі й выводзілі ў тым годзе, дык усяроўна не праветрывалі камэры. Вось якое жыцьцё".

Міхал Кукабака патрабуе дапамогі. Ён — сірата, сям'ю страціў у часе другой сусьветнай вайны. Ён — працоўны чалавек. Ён — рухавы, разумны й добры чалавек. Ён — небязуважны чалавек.

Хочацца спадзявацца, што да ягонага лёсу людзі ў розных краінах сьвету таксама не застануцца абыякавымі й пастараюцца дапамагчы яму. Ён не злачынец і таму павінен жыць на свабодзе. Ён хоча выехаць з СССР, і гэта ягонае права павінна быць ужыцьцёўленае.

**Елена Бонэр**

**МІХАЛ КУКАБАКА**



# ДЭМАНСТРАЦЫЯ

НА АБАРОНУ **МІХАЛА КУКАБАКІ**

**21-га чырвеня 1981 г. (нядзеля, 2 гадз. п/п)**

У Мангэтане на Гамаршыльд Пляза
(47 вул. Іст, паміж 1-й і 2-й Авэню)
Сабвэйны супынак: Гранд Сэнтрал Стэйшэн

21-га чырвеня спаўняюцца 2-я ўгодкі ад засуджэньня ў Бабруйску беларускага іншадумца й патрыёта Міхася Кукабакі на тры гады турмы за пашыраньне тэксту Ўнівэрсальнае Дэклярацыі Правоў Чалавека, за абарону беларускае мовы, за веру ў Бога, за адмову ад савецкага грамадзянства й жаданьне выэміграваць з СССР.

Жонка акадэміка Андрэя Сахарава Елена Бонэр у вапошнім дакумэньце пра Кукабаку (Масква, 23. XII. 1980) піша: „Міхал Кукабака патрабуе дапамогі. Ён — сірата, сям'ю страціў у часе вайны. Ён — працоўны чалавек. Ён — жывы, разумны й добры чалавек . . . Хочацца верыць, што людзі ў розных краёх сьвету таксама не застануцца абыякавымі да ягонае долі ды пастараюцца дапамагчы яму".

Ня будзьце абыякавымі, падтрымайце справу абароны Міхася Кукабакі!

**Камітэт Абароны Вязьняў Сумленьня на Беларусі**

## ЖАНЧЫНА — ВЯЗЕНЬ СУМЛЕНЬНЯ

У дакумэньце № 58 Маскоўскае Грамадзкае Групы Судзеяньня Выкананьню Гэльсынкаўскіх Пагадненьняў, падпісаным чатырма асобамі, у тым ліку Еленай Бонэр, жонкай акадэміка Андрэя Сахарава (Масква, 1.III.81), згадваецца сярод іншых прозьвішчаў **„Вільчынская Галіна Ўладзімераўна,** евангельская хрысьціянка-баптыстка з гор. Берасьця. 1958 году нарадкэньня, арыштаваная ў 1979 годзе ды засуджаная 18.VIII.1980 г. на тры гады лягеру прымусовае працы агульнага рэжыму.

Дакумэнт № 153 апублікаваны ў бюлетэні радыястанцыі „Свабода" „Материалы Самиздата" (выпуск № 11/81, 23.III.1981; АС № 4245).

## 25 САКАВІКА Ў ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ

**(Працяг з папярэдняга нумару „Беларуса")**

**ЧЫКАГА, ІЛІНОЙ**

Як і мінулымі гадамі, сьвяткаваньне 63-іх угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі папярэдзіла прыгожая, хоць невялікая, інфармацыйна-мастацкая выстаўка ў „лёббі" (фае) чыкагаўскага Грамадзкага Цэнтру імя Рычарда Дэйлі. Гэта найбольш наведванае месца ў горадзе, і нашая выстаўка, якая трывала сёлета два тыдні, мела заўсёды шмат наведвальнікаў.

У нядзелю, 22-га сакавіка Беларускае Радыё ў Чыкага, у спэцыяльнай сьвяточнай праграме, паведаміла аб сьвяткаваньні Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі. Старшыня Каардынацыйнага Камітэту сп. Васіль Пунтус, у гарачай і патрыятычнай прамове запрасіў усіх суродзічаў і слухачоў на ўрачыстую акадэмію, а адзін з маладых вучняў прадэклямаваў прыгожа верш „25-ы Сакавік" А. Змагара. На гэтым месцы варта прыгадаць, што Беларускае Радыё ў Чыкага адзначае сёлета свой 20-гадовы юбілей. Вялікая заслуга ў гэтым сп. Нікодэма Жызьнеўскага, заснавальніка гэтага радыё і ад самага пачатку кіраўніка ягонае праграмы.

У сераду 25-га сакавіка наш бел-чырвона-белы сьцяг красаваўся на будынку гарадзкой управы побач з амэрыканскім і гарадзкім сьцягамі, уздымаючы ў Беларусаў надзею, што ён калісь будзе горда павяваць у вольным Менску.

27-га сакавіка найбольшая штадзённая газэта ў Чыкага „Чыкаго Трыбюн" надрукавала даволі абшырны інфармацыйны артыкул аб Беларусі карэспандэнткі гэтай газэты Барбары Бротман. Сп-ня Бротман, пазнаёміўшыся з Тэрэсай Тарасэвіч, даведалася ад яе аб нашым сьвяткаваньні й зацікавілася ім. Да таго як напісаць артыкул, карэспандэнтка наведала а. Арх. У. Тарасэвіча, Бяленісаў і др. Вітаўта й Веру Рамукоў ды правяла зь імі доўгія гутаркі. З прычыны кароткага часу не пасьпела нажаль, наведаць іншых асобаў, зь якімі мелася спаткацца. Гэтая-ж газэта надрукавала 2-га красавіка невялікі, але зьмястоўны артыкул з мапкай Беларусі сп. Богдана О. Паўкэ.

Трэба з радасьцяй адзначыць, што, як у мінулых гадох, так і сёлета, Беларусы ў Чыкага сьвяткавалі гэты ўрачысты дзень усе разам. Вялікая заслуга ў гэтым Каардынацыйнага Камітэту, а перш-наперш ягонага старшыні Васіля Пунтуса, які нат і не уяўляе, каб было інакш. „Ці-ж ня ўсе як адзін Беларусы ў 1918 годзе ў Менску, сталіцы нашага народу, тварылі разам векапомны акт 25-га Сакавіка?" — сказаў ён.

Прыгожая банкетная заля Рэджэнсы Ін была запоўненая людзьмі. Мілая атмасфэра кактэйлевага часу дала ўсім нагоду спаткацца, прыпомніць адзін аднаго, калі даўно ня бачыліся, пагутарыць, і з радасьцяй сьцьвердзіць, што хоць мы й пастарэліся, але дзякуй Богу, ізноў спаткаліся.

Учарыстая частка пачалася адсьпяваньнем сп-няй Верай Рамук амэрыканскага гімну. Акампаніявала ёй на піяніне дачка Ірэна. Айцец Варнава Санчык, настаяцель парахвіі сьв. Юр'я, сказаў прыгожую малітву-інвакацыю, па якой сп. Васіль Пунтус горача прывітаў гасьцей і прысутных. Хвілінай цішыні ўшанавалі змагароў, што аддалі сваё жыцьцё за Беларусь.

Па абедзе сп-ня Рамук прадставіла запрошаных гасьцей. З прамовай паангельску выступіў сп. Павал Сянькевіч. Ён моцна падкрэсьліў, што сярод нас, Беларусаў, вельмі часта чуюцца два словы „свабода й незалежнасьць" і аб гэтых словах, сказаў прамоўца, мы не павінны ніколі забывацца.

Ірэна Мароз-Гэрцаў прачытала праклямацыю мэра г. Чыкага Джэйн Бырн, у якой дзень 25-га сакавіка абвяшчаўся Беларускім Днём Незалежнасьці ў Чыкага.

Студэнт Янка Рамук прачытаў праклямацыю губэрната штату Іліной Дня Беларускае Незалежнасьці.

Сьвяточную рэзалюцыю Но. 150, прынятую 82-й Генэральнай Асамблеяй прадстаўнікоў штату Іліной, прачытаў студэнт Юрка Жызьнеўскі. Гэтую рэзалюцыю, поўную патрыятычнага зьместу, хацелася-б паўтарыць тут у цэласьці. Аднак гэта заняло-б шмат месца. Зацытую ўсё-ж апошні ейны абзац: „Пастаноўлена Палатай Прадстаўнікоў 82-й Генэральнай Асамблеі Штату Іліной, злучыцца з Амэрыканцамі беларускага паходжаньня ў іхнай надзеі й малітвах, каб свабода й справядлівасьць былі йзноў аднаўленыя ў іхным родным краі, а гэтая рэзалюцыя няхай будзе перасьцярогай для ўсіх людзей, што ніхто ня можа быць свабодным, пакуль усе людзі ня стануцца свабоднымі".

Др. Вітаўт Рамук пазнаёміў прысутных з прывітаньнямі, якія прыслалі розныя арганізацыі і асобы.

Віталі Беларусаў запрошаныя госьці: ад Латышоў — Віктар Віксніпс, старшыня Камітэту Паняволеных Народаў і старшыня латыскай арганізацыі; ад Украінцаў — Міраслаў Харкевіч, старшыня чыкагоўскага аддзелу Ўкраінскага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, айцец Лявон Астроўскі з Кліўленду, праф. др. Самбірскі, кіраўнік украінскае радыяпраграмы ў Чыкага і Алексы Гарбузюк, старшыня Ўсеўкраінскага Эвангельскага Таварыства Амэрыкі й Канады.

Па прамовах, Поля Мартыновіч-Брэжнёва (сапрана) і Оля Шчукіна (альт), пад акампанімэнт акардыяністага Язэпа Малі, адсьпявалі дзьве песьні кампазытара М. Куліковіча „О, Беларусь мая шыпшына" і „Ня першы раз і не апошні" ды ў гонар украінскіх гасьцей украінскую „Полыняначку".

Цікавы рэфэрат на тэму дня прачытала сп-ня Ванда Махнач, пераплятаючы падзеі даўнейшай і навейшай гісторыі з актуальнымі праблемамі сяньняшніх дзён: права народу на самастойнае жыцьцё, правы чалавека. Яна гаварыла таксама пра тысячагадовы юбілей беларускай гісторыі ды пазнаёміла прысутных зь дзьвюма юбілейнымі карткамі, выданымі неафіцыйна на Беларусі.

Па рэфэраце быў супольна адсьпяваны беларускі нацыянальны гімн.

У другой мастацкай частцы Поля Брэжнева прасьпявала солё „Каб была я перапёлкай" (муз. М. Куліковіча, сл. Я. Купалы), а Валодзя Ракуць прачытаў ўрывак з „Новае Зямлі" Я. Коласа. Па гэтым сьпявачкі Поля Брэжнева й Оля Шчукіна выканалі „Я іду дарогай" (сл. У. Клішэвіча) і „Ой, поле, ты поле" (сл. Я. Купалы) кампазыцыі М. Куліковіча.

**(Працяг на бач. 2-й)**

# ПРАБЛЕМЫ ВЫДАВАНЬНЯ ЛІТАРАТУРЫ

У сваёй вялікай, на 450 бачынаў кнізе „Літаратура Беларусаў“ (выд. Вільгэльм Шміц, Гісэн, 1977 г.), прафэсар Арнольд МакМілін даў даволі грунтоўны агляд беларускае літаратуры ад ейных пачаткаў аж да 1970-х гадоў. Калі не памыляюся, у нашым эміграцыйным друку ня было грунтоўнае рэцэнзіі на гэтую кнігу. Але мяне цікавіць нешта іншае. На бачыне 324-й сп. МакМілін прысьвяціў аж — далібог, верыць цяжка! — 23 радкі разгляду беларускай эміграцыйнай літаратуры. Хачу адразу адно удакладніць: мова йдзе пра мастацкую, а не публіцыстычную літаратуру.

На навуковай беларусаведнай канфэрэнцыі на Атаўскім унівэрсытэце ў травені 1975 году праф. Антон Адамовіч, у сваім дакладзе пра нашу эміграцыйную літаратуру, пералічыўшы беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, што тварылі ці твораць за межамі бацькаўшчыны, сказаў і такое: „Кастусь Акула напісаў і выдаў больш, як усе іншыя разам узятыя“ (цытую з памяці — К.А.). Мне, там прысутнаму, зрабілася тады, сьціпла кажучы, ніякавата. Хоць праф. Адамовіч недалёка адбег ад праўды, ягоную ацэну трэба ўважаць занадта суб'ектыўнаю. „Усе іншыя“, бязумоўна, напісалі шмат больш за Акулу, але ці змаглі выдаць? Бо-ж і прафэсар МакМілін, гаворачы ў тых сваіх дваццаць трох радкох пра творчую спадчыну Юркі Віцьбіча, кажа, што „ягоныя іншыя творы (апрача „Плыве з-пад Сьвятое гары Нёман“ — К. А.) раськіданыя па іншых, часта недаступных пэрыёдыках“.

МакМілінава заўвага, бязумоўна, датычыцца ня толькі да твораў Юркі Віцьбіча. Тое-ж можна сказаць і пра раськіданыя па розных пэрыёдыках, пераважна газэтах, творы іншых нашых літаратараў.

Дзіва няма, што МакМілін прысьвяціў эміграцыйнай беларускай літаратуры адзін абзац свае вялікае працы. Каб ахарактарызаваць творчасьць таго ці іншага, трэба мець сабраную й выданую цэласьць, а гэтага няма. І дзе ўжо там МакМіліну шукаць таго раськіданага! На гэта трэба мора часу.

У сваім інтэрв'ю п. заг. „Глыбіня жыцьцёвага дазнаньня“ (гл. „Беларускі час“, № 24, 25-26, 1980 г.) пісьменьнік Уладзімер Глыбінны жаліцца на немагчымасьць выданьня сваіх твораў у сувязі з плянамі завяршэньня раману „Вялікія дарогі“: „Адылі наша эміграцыя ў параўнаньні з эмігрантамі з прыбалтыцкіх краін слабая. Калі Латышы, Лятувісы й навет Эстонцы, здабыліся ў эміграцыі мець свае выдавецтвы й выдаюць шмат кніжок, нашы людзі больш парожняць кілішкі ў карчме, чымся дбаюць пра культурны развой. А беларускі пісьменьнік-эмігрант, каб нешта выдаць, мусіць цалкам аплаціць выданьне з сваёй кішэні. А аднаму чалавеку гэта зрабіць нялёгка. А да гэтага трэба яшчэ папрацаваць творча, а калі ходзіць пра раман, дык гадамі“. І далей: „Адно, што ня спрыяе натхненьню, гэта адсутнасьць пэрспэктывы выдаць твор друкам“.

Здаецца, што Ул. Глыбінны крыху адбег ад праўды. Людзі, што „парожняць кілішкі ў карчме“, гэта адна, але не асноўная прычына нястачы сродкаў на выданьне беларускіх літаратурных твораў на эміграцыі. Галоўная прычына, на маю думку, гэта нясьведамасьць нашых людзей (у тым ліку й тых, што „парожняць кілішкі“) пра надта складаныя й каштоўныя справы, зьвязаныя з выдаваньнем мастацкай літаратуры.

Чытач беларускай эміграцыйнай літаратуры, агульна бяручы, ня так сьведамы патэнцыяльнае культурнае вартасьці мастацкіх літаратурных твораў як, скажам, згаданы Глыбінным Латыш, Эстонец ці Лятувіс з добра ведамых нам прычынаў. Навет у спрыяльных умовах чытач мастацкай літаратуры, ці дакладней сказаць, ягоны смак да такое літаратуры, расьце ў працэсе самога — прабачце за выраз — спажываньня твору. Але, каб яго спажываць, трэба, каб ён быў выданы й надрукаваны. А каб выдаць, патрэбныя грошы, якія павінен авансаваць той самы чытач.

Дык гэтта, на эміграцыйным літаратурным рынку, — калі наагул пра існаваньне рынку льга гаварыць, — атрымліваецца зачараванае кола. Няма выданых твораў, бо няма за што, а каб патэнцыяльны чытач даў грошы, трэба, каб ён належна ацаніў вартасьць мастацкай літаратуры й аграмадныя кошты ейнага выданьня.

Цяпер пра самае галоўнае: гэтыя кошты. Яшчэ ў часе беларусаведнай канфэрэнцыі на унівэрсытэце Квінс, у Кінгстане ў Канадзе, арганізатары ейныя зьвярнуліся да мяне з просьбай, каб даведаўся пра кошты выданьня матар'ялаў гэнае канфэрэнцыі. Наколькі прыгадваю, адбылася яна гады тры перад згаданай мной вышэй канфэрэнцыяй у Атаве, значыцца, гадоў восем таму. Магчыма, што памыляюся пра час. Тады я ў таронцкіх друкарнях даведаўся, што кошт, у які ўваходзіў і набор, і рэпрадукцыя, і пераплёт, быў сем даляраў за бачыну. А ня так даўно, у сувязі з праектаваным выданьнем „Вас чакае зямля“, трэцяй кнігі „Гараваткі“, выявілася, што цяпер кошт выданьня аднае бачыны тры разы большы. Значыцца, каб выдаць кнігу на якіх 300 бачынаў, трэба недзе знайсьці больш за шэсьць тысячаў даляраў. Справа, як бачыце, амаль безнадзейная.

Найбольш турбуе тое, што нашыя суродзічы на эміграцыі, людзі добрае волі, якія заўсёды падтрымлівалі фінансава выданьне мастацкіх твораў, цяпер, у параўнаньні зь мінулым, даюць менш на гэтыя справы, значыцца ахвярнасьць іхная прапарцыянальна адстала ад росту коштаў друку.

Гэта не сакрэт, што некаторыя нашы суродзічы на эміграцыі добра абжыліся, ёсьць у нас навет мілянеры. Тыя, што грошы маюць і маглі-б на выданьне мастацкае літаратуры даць, бачаць перад сабой адну асноўную перашкоду: за ахвяры на выданьне кніжок яны не дастаюць квітоў, што зводьнілі-б іх ад платы падаткаў за тыя грошы.

Гэтта вельмі характэрны адзін момант: ахвярнасьць нашага эміграцыйнага грамадзтва на цэрквы куды большая, як на мастацкую літаратуру, газэты, часапісы ды іншыя выданьні. Справа простая: царква дае ахвярадаўцу квіт, у моц якога ён ня будзе плаціць дзяржаўнага падатку за ахвяраваную суму.

Тут, мне здаецца, царкоўныя нашы ўлады — бяручы пад увагу тое, што яны заўсёды перапоўненыя добрай воляй і разумеюць амаль бязвыхадную сытуацыю аўтараў беларускае мастацкае літаратуры на эміграцыі,—могуць прыйсьці нам на дапамогу. Паколькі царкоўныя інстытуцыі маюць харытатыўныя прывілеі, царкоўныя ўлады маглі-б за ахвяраваныя грошы на выданьне літаратуры выдаваць квіты, якія-б звальнялі ахвярадаўцаў ад дзяржаўных падаткаў. Практычна гэта вельмі проста й зусім легальна.

Калі-б, скажам, грамадзянін А ці Б хацеў ахвяраваць нейкую суму на выданьне тае ці іншае кнігі, няхай-бы даў гэту суму на царкву, якая выдасьць яму квіт для дзяржаўных падаткаў, а адпаведная ўправа парахвіі пасьля гэтыя грошы перакажа выдавецтву. Гэткім парадкам, мне здаецца, можна было-б, ужываючы ведамую прымаўку, залатаць ціадну дзірку.

Апрача вышэй згаданага пісьменьніка Глыбіннага, ведаю й іншых аўтараў на эміграцыі, якія, на вялікі жаль, ня могуць разьвязаць падобнага гордыевага вузла. У іх ліку знаходзіцца й аўтар гэтых радкоў. Скончыўшы апошнюю кнігу „Гараваткі“, я стаю перад праблемай, ці пісаць наступную кнігу, якая, з прычыны асабліваасьцяў заплянаванага сюжэту першых трох кнігаў, ужо наклюнулася. І тут — няхай чытачы выбачаць мне за нясьціпласьць — асьмелюся сказаць адно: выдавецкі тупік, як кажа той-жа Глыбінны. Запраўды трэба быць звышчалавекам, каб уляжыўшы тысячы гадзінаў працы ў той ці іншы твор, выдаваць яшчэ яго за свой кошт.

На чарзе стаіць і выданьне гісторыі Беларусі паангельску, якая ўжо напісаная. Гэтая кніга нам на эміграцыі назарэз патрэбная. Дзе ні сутыкнешся ў якіх-небудзь палітычных ці іншых кантактах з англамоўным сьветам, заўсёды ставяць тое самае, зусім натуральнае для іх, а для нас назойлівае пытаньне: што такое Беларусь? Вы Расейцы, ці як? — Вось расьпяразвайся й вырясьняй. Гісторыя Беларусі, прыгожа выданая, зрабіла-б для беларускага нацыянальна-вызвольнага змаганьня незаменную паслугу. Выданьне-ж яе надта каштоўнае.

Мне здаецца, што пры добрай волі й зацікаўленьні нашага грамадзтва справамі коштаў выданьня, асабліва пры дапамозе аўтарам з боку царкоўных інстытуцыяў (якім гэтая помач, дарэчы, нічога ня будзе каштаваць), гордыеў вузел пакрыцьця коштаў выданьня патрэбнае мастацкае й гістарычнае літаратуры на эміграцыі можна лёгка разьвязаць.

**К. Акула**

## У БЕЛАРУСКІМ ІНСТЫТУЦЕ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

Прадстаўнікі Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, Навуковага Таварыства ймя Т. Шаўчэнкі, Украінскае Вольнае Акадэміі Навукаў у Амэрыцы ды Чэхаславацкае Акадэміі Навукаў у ЗША былі ўдзельнікамі навуковае канфэрэнцыі, арганізаванае 2 травеня сёлета ў Нью Ёрку Польскім Інстытутам Навукі й Мастацтва ў Амэрыцы. Адно з паседжаньняў канфэрэнцыі, праведзенае пад старшынствам праф. Тадэвуша Грамады із штатавага каледжу ў Нью Джэрзі, было прысьвечанае пытаньню супрацоўніцтва ў навуковай галіне паміж вышэй названымі ўстановамі ды амэрыканскімі ўнівэрсытэтамі.

Былі грунтоўна прадыскутаваныя магчымыя тэмы для супольнага распрацаваньня, праводжаньне супольных канфэрэнцыяў на тэмы гісторыі ўсходня-эўрапейскіх народаў ды перагляд стану вывучэньня спадчыны гэтых народаў у Амэрыцы.

***

На адзначэньні 120-х угодкаў ад сьмерці Тараса Шаўчэнкі, выдатнага сына Украіны, арганізаваным Украінскай Вольнай Акадэміяй Навукаў, Таварыствам імя Шаўчэнкі ды катэдрай украінаведы пры Гарвардзкім Унівэрсытэце, ад Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва былі прадстаўнікамі др. Вітаўт Тумаш, сп-ня Зора Кіпель і др. Вітаўт Кіпель.

## ЛІТАРАТУРНЫ ВЕЧАР ВЕРЫ РЫЧ

У Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку адбыўся 9-га травеня літаратурны вечар брытанскае паэткі й перакладчыцы беларускае паэзіі Веры Рыч, прысьвечаны стагодзьдзю ад нарадзінаў Янкі Купалы й Якуба Коласа.

Вера Рыч пераклала шмат вершаў і паэмаў гэтых двух клясыкаў беларускае літаратуры. Частка ейных перакладаў зьмешчаная ў першай англамоўнай анталёгіі беларускае паэзіі, што выйшла ў сэрыі выданьняў ЮНЭСКА ў 1971 годзе пад загалоўкам „Як вада, як агонь“ (радок з Купалавае паэмы „На папасе“). У анталёгію, аднак, увайшлі далёка ня ўсе пераклады, частка іх яшчэ чакае на свайго выдаўца, а ў тым ліку й некаторыя Купалавы творы, што знаходзяцца пад цэнзурнай забаронай у савецкай Беларусі. Ёсьць надзея, што яны выйдуць асобным выданьнем — у арыгіналах і ангельскім перакладзе — да купала-коласаўскага стагодзьдзя.

Амбіцыяй Веры Рыч застаецца йшчэ таксама зрабіць і выдаць поўны пераклад дзьвюх Коласавых паэмаў „Новая Зямля“ й „Сымон Музыка“, часткі якіх яна чытала ў перакладзе на літаратурным вечары.

**З.**

## НА СЬВЯЦЕ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ У ЛЯТУВІСАЎ

Аддзел Лятувіска-Амэрыканскай Рады ў Лёс Анджэлесе сёлета, на рэдкасьць, запрасіў прадстаўнікоў-сяброў Арганізацыі Амэрыканцаў за Свабоду Паняволеных Народаў на сваё сьвяткаваньне Дня Лятувіскае Незалежнасьці. У запросінах былі пададзеныя тры пункты праграмы: 13. II — урачыстасьць вывешваньня сьцягу перад будынкам гарадзкое ўправы Лёс Анджэлесу; 15. II — урачыстая праграма ў залі сярэдняе школы ў недалёкім суседзтве зь лятувіскім касьцёлам. Як трэйці пункт праграмы, было пададзенае прыняцьцё ў Лятувіскім Нацыянальным Цэнтры. Запросіны заахвочвалі да ўдзелу ў урачыстасьцях з нацыянальнымі сьцягамі.

Беларускі прадстаўнік сп. Часлаў Найдзюк узяў удзел у двух апошніх пунктах праграмы. На сярэдзіне сцэны беларускі нацыянальны сьцяг выглядаў вельмі добра. Старшыня Арганізацыі Амэрыканцаў за Свабоду Паняволеных Народаў др. Альгерд Клейнат у сваім прывітаньні згадаў і Беларусь, як паняволеную краіну.

Гасьціннае прыняцьцё дало беларускаму прадстаўніку добрую нагоду падзяліцца зь лятувіскімі кіраўнікамі інфармацыямі аб Беларусах і праблемах нацыянальных суседзкіх узаемадачыненьняў.

**Н.**

## НА ВУГОРСКАЙ УРАЧЫСТАСЬЦІ Ў ЛЁС АНДЖЭЛЕСЕ

У нядзелю 22 сакавіка сёлета ў парку ймя Мэк Артура ў Лёс Анджэлесе, перад помнікам вугорскім змагаром за свабоду, адбылося ўрачыстае пасьвячэньне плошчы ймя Кардынала Міндчэнты, мэмарыяльная пліта якога знаходзіцца побач помніка.

У гэтай урачыстасьці ўзялі ўдзел і прадстаўнікі іншых паняволеных Саветамі народаў із сваімі сьцягамі, а між імі й беларускі дэлегат, сябра арганізацыі „Амэрыканцы за Свабоду Паняволеных Народаў“. Старшыня гэтай арганізацыі др. Альгерд Клейнат быў прадстаўлены сходу як адзін спасярод немалой групы гасьцёў.

З прывітаньнямі выступалі: старшыня гарадзкой рады Лёс Анджэлесу Джон Фэрара, мэр гораду Том Брадлі, штатавы асэмблімэн Эрно Кеньо ды віцэстаршыня вугорскай фэдэрацыі змагароў за свабоду Джон Далінскі.

**Н.**

# СКАЗ ПРА ЛЫСУЮ ГАРУ

**(Паэма)**

**(Працяг)**

**Ён форму зьняў для туалета —**
**Што аж зайздросна паглядзець:**
**Як ёсьць касьмічная ракета,**
**Вось-вось гатовая ўзьляцець!**

**І гэтай формы сэнс быў ясны:**
**Заходзь, садзіся і ўключай!**
**Ну а ці быў там зьмест сучасны —**
**Ты ўжо, чытач, мне выбачай!**

**III. Будаўніцтва**

**І грады ёсьць і прыбіральні,**
**І ўжо на градах узыйшло,**
**Але і ў позьні час і ў раньні**
**Спакою творцам ня было...**

**Ну, скажам, вырасла радыска.**
**А дзе гарантый плот і дрот,**
**Што сам зьясі? Сусед-жа блізка,**
**Залезе ў творчы агарод!**

**Ці-ж прывыкаць да плягіяту**
**Хапугам розным уначы?**
**І калі ты ня зробіш хату,**
**Дык як-жа грады сьцерагчы?**

**Сабаку й тому трэба будка,**
**Каб ён ня мок і не калеў.**
**І вось на ўчастку кожным хутка**
**Закрасаваў часовы хлеў.**

**Але ў часовым надта-ж мулка!**
**Вунь, колісь быў Часовы Ўрад —**
**І той застаўся бяз прытулку,**
**Як даль высьпятка пад зад.**

**Наш век, вядома, пэўнасьць любіць,**
**А пэўнасьць — гэта не хляўчук.**
**Канешне, зь бёрнаў хлеў ня зробіш,**
**Бо адбяруць сякеру з рук.**

**Таму і кожны лысагорац**
**Пачаў мазгамі варушыць,**
**Каб як аполкаў дзе агораць,**
**Зьляпіць хаціну і зажыць.**

**І неўзабаве стала ясна,**
**Што ўсе цюхцяі-цяльпухі,**
**Калі датычыць справы ўласнай,**
**Ого, якія спрытнякі!**

**Зьдзівіла ўсіх актыўнасьць Цьвіркі:**
**Займеўшы ўласны чарназём,**
**Адолеў лёгка закавыркі**
**І самы першы згрукаў дом.**

**За ім усьлед — маўчун Арочка**
**Надвожваў плашкі пакрысе.**
**О, як ён важна, без сарочкі**
**Выглядаў з кульбай на страсе!**

**Няхай зь Кірэенкам глядзелі**
**На гэтых выскачак маўчком,**
**І ў Няхая душонка ў целе**
**Аж закруцілася ваўчком.**

**І ён, як зух-ініцыятар**
**Ва ўсякай творчай барацьбе,**
**Зусім аднюлькавыя хаты**
**Дастаў суседу і сабе.**

**Але сусед падумаў сьціпла:**
**„Зраўнацца хатай — проста жах!“**
**І набакір — у стылі „Сьпірта“**
**Ён заламаў фацэтна дах.**

**Тымчасам Хомчанка зьмікіціў,**
**Што маху даў, ня ўзяўшы град:**
**Адзеў свой пракурорскі кіцель -**
**І зразу ўсё пайшло на лад.**

**Ён прыхапіў дзялянку хмызу**
**(Някепска знаць закону дух!)**
**І дом — з падмурку да карнізу**
**Урваў па часьці бытпаслуг.**

**І ў Сяргіевіча быў вопыт:**
**Былы калгасны старшыня —**
**Ён на драўніну ведаў попыт**
**І знаў, што тут з агнём гульня.**

**Таму на самым касагоры,**
**Дзе пры дзяльбе дастаўся пляц,**
**З абломкаў шыферу агораў**
**Стракаты казачны палац.**

**Не па ранжыру, як у войску,**
**Але ня горш, як каралі,**
**Шыловіч, Калачынскі, Вольскі**
**Свае харо́міны ўзьвялі.**

**Ля іх, ня любячы дарэмшчыны,**
**Рукамі ўласнымі, як мог,**
**Стары стаяр-чырвонадрэўшчык,**
**Адпляскаў Звонак звонкі гмах.**

**Затое з краю і па цэнтры**
**Не прыкладалі ўласных рук**
**Сябры-пісьменьнікі, дацэнты**
**І дактары усіх навук.**

**Александровіч дом, як пуню,**
**Зрабіў з паветкай заадно,**
**І каб выходзіў дым — прасунуў**
**Трубу, як гаўбіцу, ў вакно.**

**Апроч таго — нашто ўжо лепей!**
**(Хоць сам ён кажа, што бяда)**
**Крыніцай творчасьці у склепе**
**З глыбінь прабілася вада!**

**І Бугаёў, хоць быў вядомы**
**Як лятуценьнік-кніжкаед,**
**Аднак ня меншую стадолу**
**На ўскрайку выстукаў усьлед.**

**І Куляшоў — мудрэц-прафэсар**
**(Што-ж, многа трэба на дваіх)**
**Паставіў замак сярод лесу,**
**А не на сотках на сваіх.**

**Ды ўсе прафэсары й дацэнты**
**Перад Навуменкам адным**
**Былі, як дробязныя цэнты**
**Перад далярам залатым.**

**Другі маштаб, другая марка:**
**Калі яму стаўлялі дом —**
**Тры дні вішчэла цыркулярка,**
**Чатыры дні зьвінела чарка,**
**І цэлых пяць ськвірчэла скварка,**
**І кожны дзень вялася сварка,**
**Былі Гамора і Садом.**

**Астрэйка, той, што ў сотнях песьняў**
**Услáвіў некалі булан, —**
**За кожнай кроквай клікаў цесьляў:**
**— Ну, злазьце, хлопцы, кроплю дам!**

# BIEŁARUS

Monthly. Published by the Byelorussian-American Association, Inc., P.O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11431. Price per copy: $1.00, subscription $10.00 per year.

## POLISH OPPRESSIVE LIBERTY

Poland has been struggling for and gaining some liberty, but with a paradoxical outcome.

As we reported in our last issue (No. 288, "Abridgement of Byelorussian Culture in Poland"), the cultural activities of the Byelorussian minority in the People's Republic of Poland were severely curtailed during the 1970's. This occurred as a result of the rise of Polish nationalism, a force that has been nurturing, among other things, the Solidarity labor movement and democratic reforms in Polish society.

There are up to 300,000 Byelorussians in Poland, mainly in the region of Bialystok, but also in Polish western territories (Zielona Gora, Szczecin, Gdansk).

Welcoming and supporting the Polish people's struggle for freedom and justice, we express our dismay and regrets that these noble goals are not meant for Poland's Byelorussian minority.

Unfortunate manifestations of Polish nationalism have been admitted by a man who should know about them—Mieczyslaw Rakowski, the long-time editor of he prestigious weekly newspaper **Polityka** and, since last February, Deputy Prime Minister of Poland.

In an interview with John Darnton of the **New York Times** (May 10, 1981) answering Mr. Darnton's question ("As the Polish experiment continues, overtones of nationalism are emerging. How do you view this?") Mr. Rakowski said:

"Such a danger exists and certain indications of Polish nationalism are apparent now. This is obviously a misfortune. A country like ours, which is located in the heart of Europe, cannot allow itself to express its nationalism, because in every situation of this kind, the nationalism will hurt national interests. But I believe that in Poland, sound reason will prevail."

Let us hope Mr. Rakowski's expectations will be realized. He is a man in a position to help it happen.

## UNESCO WILL HONOR J. KOŁAS

The monthly literary periodical **Maladosc** (Minsk, 1981, No. 3, p. 184) reports that the United Nations Educational Scientfic and Cultural Organization (UNESCO) will mark the centenary of the birth of Jakub Kolas (1882-1956) in 1982. Being that Kolas and Janka Kupala (1882-1942) are the most prominent of all Byelorussian writers, the centenary of their births will be extensively celebrated both in their homeland and abroad.

Jakub Kolas has the distinction of being the first poet whose poetry was read in space (by the Byelorussian astronaut Piotra Klimuk). When Colonel Klimuk and his Russian colleague, Vitaly Sevastyanov, departed for space on May 24, 1975 in the Soyuz 18 spacecraft (see, **NYT** of May 29, 1975: "Soviet Astronauts Ready to Activate Laboratory in Orbit"), Klimuk took a collection of poetry of Jakub Kolas along with him. (**Vieršy**, published by the Mastackaja Litaratura Publishing House in 1972 on the occasion of Kolas' 90th birthday.) The Minsk weekly **Litaratura i Mastactva** of October 24, 1975, offered the following: "When there was a free moment after the tense day's work-schedule, Piotr Ilyich read to his cosmic brother, space engineer Vitali Sevastyanov, the heartfelt lines of the simple and very humane poetry of Kolas."

**Litaratura i Mastactva** of October 24, 1975 (see, M. Bazarevic, "Słova Kołasa natchniała Klimuka . ,") quoted the astronaut's words about the poet from the guest book of the J. Kolas Literary Museum in Minsk: "Filled with emotion, I have visited the museum named in honor of the People's Poet Jakub Kolas whose poems I have remembered and loved since the time of my childhood. This is why I took the booklet of his poetry with me into space. There, in the expanses of the universe, the following immortal words took on a special meaning:

> My native nook, dear land that
> bred me!...
> I have no power to forget thee!
> P. Klimuk, 3 Oct. 1975."

The above two lines of Kolas' poetry were taken from the book **Like Water, Like Fire**, an anthology of Byelorussian poetry from 1828 to the present day, translated by Vera Rich and published in London, England, in 1971, by George Allen & Unwin Ltd. in the series "UNESCO Collection of Representative Works." The annotated anthology contains sixteen pieces of poetry by Kolas in Vera Rich's fine rendering.

## THE JOURNAL OF BYELORUSSIAN STUDIES

**JBS** is published by the Anglo-Byelorussian Society (39 Holden Road, London N. 12 8HS, England) and is largely devoted to Byelorussian historical and cultural matters. It has appeared annually for the last sixteen years and contains a wealth of materials for both scholarly and scholastic research on Byelorussia.

The recently-published 1980 volume of **JBS** (v. IV, No. 3-4 — Years XV-XVI) includes the following articles:

The Byelorussian Impact on Karaite and Yiddish — by P. Wexler of the University of Tel Aviv;

German Lexical Borrowings in the Chronicle of Barkulabava and in the Memoirs of Theodore Jeulasesuki (15th-17th centuries) — by R. J. Patry-Tamushanski of Vatican Radio;

The Influence of Non-Linguistic Factors on the Rise and Fall of the Old Byelorussian Literary Language — by A. G. Waring of the University of Sheffield;

Some Recent Soviet Publications on Francisk Skaryna (Review article) — by J. Dingley of the University of Reading;

The Chairman's Annual Report for the years 1978-1979 and 1979-1980 (list of lectures on Byelorussian subjects given by the Anglo-Byelorussian Society);

Reviews; Selected Bibliography on Byelorussia, 1978-1979; and Index to Volume IV.

## ZAPISY

### OF THE BYELORUSSIAN INSTITUTE OF ARTS AND SCIENCES

The latest volume of Zapisy (No. 16) includes the following:

Wood Engravings of Duerer's Teacher in Doctor Skaryna's Traveler's Book (in Byelorussian) — by V. Tumash;

The Problem of Dostoyevski's Origin (in English) — by V. Seduro;

The American Relief Administration (ARA) in Byelorussia (in English) — by A. Kipel;

The Establishment of Byelorussian Schools in Miensk (in B.) — by A. Ratkievich;

Byelorussians in Latvia (in. B.) — by P. Miranovich;

Francisak Skaryna's Acrostics — (in B.) — by V. Tumash;

Three Editions of the Lithuanian Statute of 1588 (in B.) — by R. Maksimovich;

Captain John Smith in Byelorussia (in B.) — by Z. Kipel;

Reviews; Chronicles.

Summaries are provided in English for the Byelorussian-langauge articles and in Byelorussian for those in English.

## "MICHAL KUKABAKA NEEDS HELP!"

This was the besic message in a larger document of the Moscow Helsinki group signed by Dr. Sakharov's wife, Yelena Bonner, dated December 28, 1980.

Byelorussian-Americans are responding to this appeal on **Sunday June 21, 1981 (2 PM) in front of the United Nations** (Hammarskjold Plaza) by holding a rally to mark the second anniversary of Michal Kukabaka's sentencing.

**Congressional Record**

United States of America

PROCEEDINGS AND DEBATES OF THE 97th CONGRESS, FIRST SESSION

# BYELORUSSIAN INDEPENDENCE MARKED IN U.S. CONGRESS

**(Continued from the previous issue)**

**HON. BERNARD J. DWYER**
of New Jersey
in the House of Representatives
Wednesday, March 25, 1981

● Mr. DWYER. Mr. Speaker, today marks the 63d anniversary of Byelorussian independence and it is right that we take a moment to reflect again on the tragedy of that peaple's all too brief taste of genuine national freedom.

Like her Baltic neighbors, Byelorussia has been denied her right to sovereignty following the Red Army's forceful takeover, and been further victimized by systematic attempts at Russification by the oppressive Soviet regime.

This anniversary also gives Congress an opportunity to express support for the local Byelorussian-American community's efforts to include their language in "Voice of America" programing. This appeal by first, second, and third generation Byelorussian-Americans to help protect the interests of their relatives in the Soviet Union should not be ignored.

On Sunday, March 29, Byelorussian-Americans will be celebrating the spirit of freedom that has endured there despite attempts by the Soviets to squelch it. We in New Jersey's 15th District, where many Byelorussian-Americans make their homes, salute the mand pray that Byelorussia and the other captive nations will soon be free once more.●

**HON. NORMAN F. LENT**
of New York
in the House of Representatives
Wednesday, March 25, 1981

● Mr. LENT. Mr. Speaker, I rise to call to the attention of my colleagues the 63d anniversary of the Declaration of Byelorussian Independence. On March 25, 1918, the Byelorussian Democratic Republic proclaimed its independence. It is essential that we give thought today to the brief period of genuine freedom and sovereignty this brought to the Byelorussian people. Brief though it was, it demonstrated to the entire world the great desire for freedom among the Byelorussian people; a desire which remains strong and alive today, despite the cruel, repressive efforts of the Soviet regime.

The Soviets have been conducting an intensive campaign against the Byelorussians, denying them the rights and liberties we, as free Americans, treasure. The sole purpose of the Russian tactics is the obliteration of the sense of separate nationality and culture the Byelorussians cherish Such efforts have failed. The Byelorussians continue to nurture their ideals of freedom. Today's celebration of the anniversary of their independence day should serve as a recognition of the endurance of their magnificent struggle for freedom.

I would like to direct your attention to one outstanding example of this strong and unquenchable Byelorussian spirit of freedom. Our prisoner of conscience; Michal Kukabaka, has been unjustly imprisond by the Soviets. And what is Michal guilty of? His crime was that he sought to enlighten his fellow countrymen to their basic human rights designated in the Universal Declaration of Human Rights. For this, Michal was thrown into a psychiatric prison.

His case is one of many providing an abundance of evidence that the spirit and desire for a free Byelorussia is very much alive even under the repressive Soviet regime. Since 1919 the Russian Communist Party has controlled the affairs of Byelorussia. In spite of this oppression, the cultural heritage of Byelorussia continues to be one of the richest in Eastern Europe. Today the Byelorussians thirst for the independence they once knew—on this anniversary let us reaffirm our pledge to do all in our power to aid in restoring freedom to those who seek its bountiful rewards.●

**CONGRESSIONAL SALUTE TO THE PEOPLE OF BYELORUSSIA IN COMMEMORATION OF THE 63d ANNIVERSARY OF THE DECLARATION OF INDEPENDENCE OF THE BYELORUSSIAN DEMOCRATIC REPUBLIC**

**HON. ROBERT A. ROE**
of New Jersey
in the House of Representatives
Wednesday, March 25, 1981

Mr. ROE. Mr. Speaker, today marks a historic and momentuos day for all freedom loving people who are deeply committed to the ideals of self-determination and independence of thought and action.

It was 63 years ago today, on March 25, 1918, that the executive committee of the First Byelorussian National Congress proclaimed the Byelorussian Democratic Republic, initiating a period of guaranteed freedom of speech, assembly, and the equality of all citizens under the law.

But, unfortunately, that exercise in freedom for the Byelorussian Republic was short-lived. Under the leadership of Lenin, the new imperialist Bolshevik government of Soviet Russia reconquered the independent state Byelorussia.

To camouflage this aggression the Moscow regime arranged the proclamation of its own colonial state, the Byelorussian Soviet Socialist Republic, on January 1, 1919, in the city of Smolensk.

The Byelorussian people were the victims of both Communist agression and imperialism, and later Nazi occupation. But they remained steadfast in their opposition to subjugation. Scores of brave Byelorussian heroes gave their lives in the fierce battle to save their homeland from the brutal Russian Communist forces.

Since 1921, the Russian Communist Party has controlled the internal affairs of Byelorussia, but the cultural heritage of its people has remained one of the strongest and richest in all of Europe. In their hearts, the Byelorussian people have a continued desire for the independence from the yoke of Soviet aggression.

Many brave Byelorussian citizens are today being held in Soviet prison camps. For most their crimes are nothing more than expressions of basic human rights for their fellow citizens, One great Byelorussian hero, Michal Kukabaka has been sentenced to 6 years in a Soviet psychiatric prison for writing an essay entitled "Human Rights and Détente Are Indivisible."

During the 63 years of Soviet oppression, over 6 million Byelorussian citizens have been murdered or deported to Siberian concentration camps.

Mr. Speaker, the proud people of Byelorussia are an inspiration to us all and we join them today in their hope that one day their dreams of freedom and independence will be realized.●

THE 63D ANNIVERSARY OF THE FOUNDING OF THE BYELORUSSIAN DEMOCRATIC REPUBLIC

**HON. WILLIAM M. BRODHEAD**
of Michigan
in the House of Representatives
Wednesday, March 25, 1981

● Mr. BRODHEAD. Mr. Speaker, today marks the 63d anniversary of the founding of the Byelorussian Democratic Republic. I join with my colleagues in commemorating this day, which is of such great importance to my constituents of Byelorussian descent and others around the world.

The Soviet aggression against Byelorussia in 1918 has been mirrored many times since. It is ironic that the Soviet troops poised to thwart the Polish people's quest for freedom are on land which was captured from Byelorussia. The Polish crisis has been a powerful reminder of the fact that only a small percentage of the world's population enjoys the kind of freedom that exists in America. As Americans cherish freedom, we must also support the efforts of those less fortunate who wish to obtain its blessings.

The Byelorussian Democratic Republic was formed on March 25, 1918. The brief period of freedom before the occupation of Byelorussia by the Soviet Red Army remains in the hearts of those who love and cherish Byelorussia. These people have not given up hope that their country will once again be restored its freedom.

The United States remains one of the few nations on Earth where one's cultural heritage may be openly embraced and practiced from generation to generation. At a time when world events renew the threat of oppression around the world, it is particularly important that we speak out for a free Byelorussia.●

**BYELORUSSIAN INDEPENDENCE DAY**

**Friday, March 27, 1981**

Sen. METZENBAUM. Mr. President, 63 years ago, on March 25, 1918, the people of Byelorussia declared their freedom from centuries of Russian domination and opened a brief, but a well-remembered, period of national independence.

That anniversary cannot be observed in the Soviet Union today, but in this country, more than a million Americans of Byelorussian ancestry take this occasion to remind the rest of us the despotism under which their friends and relatives in the U.S.S.R. must live.

This weekend, at a major meeting in New York, representatives of the Byelorussian-American community will formally request the Voice of America to include the Byelorussian language programs in its broadcasts to the Soviet Union. I strongly endorse that request.

(Included in Senator Metzenbaum's statement was the full text of remarks he made last August at the Convention of Byelorussians of North America in Cleveland, Ohio. Addressing the rally of Byelorussian-Americans and Byelorussian-Canadians, the Senator spoke, among other things, of the worthlessness of the promises the Soviets made by signing the 1975 Helsinki accords. The distinguished speaker suggested that the Byelorussian dissident Michal Kukabaka be asked about the value of those promises:)

Ask Mikhail Kukobaka, a 43-year-old workingman from Byelorussia who has spent a quarter of his life in and out of Soviet prisons and psychiatric hospitals.

What was his crime? Kukobaka wrote an essay about the miserable lives of his fellow working men and women. For that, he was convicted last year in what the Soviet call a court of justice for the crime of slandering the state.

Ask Mikhail Kukobaka what he thinks of Soviet assurances.

And while you're at it, ask religious believers in the Soviet Union what they think of their government's promise at Helsinki to "recognize and respect the freedom of the individual to profess and practice, alone or in community with others, religion or belief in accordance with the dictates of his own conscience."

Ask and you will learn that no religious believer — Christian, Jew and Moslem alike — may be a teacher in the Soviet Union.

No religious believer may be a civil servant or an official in the government.

No religious believer may be assured of access to places of worship or to the services of the clergy.

In the Soviet Union, official permission is required for a priest or a minister or a rabbi to visit the sick. Official permission is required even to comfort the dying. And often in the Soviet Union, official permission is refused.